Беларуская
дзіцячая
энцыклапедыя

# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА



## Чалавек-энцыклапедыя




Алесь СУША

# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА

У 3 частках
Частка 1

## Чалавек-энцыклапедыя

Мінск
«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
2016

УДК 087.5:[94(476)+929Скарына](035)
ББК 63.3(4Беи)я2
С91

Серыя заснавана ў 2015 годзе

Матэрыялы выдання падрыхтаваны сумесна
з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі

**Суша, А.А.**

С91 Францыск Скарына. У 3 ч. Ч.1. Чалавек-энцыклапедыя : для сярэд. і ст. шк. ўзросту / Алесь Суша. — Мінск : Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2016. — 120 с. : іл. — (Беларуская дзіцячая энцыклапедыя).

ISBN 978-985-11-0903-2.

Кніга серыі «Беларуская дзіцячая энцыклапедыя» прысвечана беларускаму першадрукару Францыску Скарыне, які з'яўляецца, верагодна, самым яркім і найбольш вядомым творцам беларускай культуры, здольным прадставіць яе ва ўсёй шматграннасці і паўнаце. Гэта сапраўды чалавек-энцыклапедыя і ўніверсальная асоба. Яго талент праяўляўся літаральна ва ўсім: беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, выдавец, перакладчык Бібліі на родную мову, пісьменнік, філосаф-гуманіст, тэолаг, вучоны, лекар, батанік, грамадскі дзеяч, прадпрымальнік… Кніга прызначана для дзяцей сярэдняга і старшага школьнага ўзросту, а таксама ўсіх, хто цікавіцца багатай гісторыяй нашай краіны.

**УДК 087.5:[94(476)+929Скарына](035)**
**ББК 63.3(4Беи)я2**

**ISBN 978-985-11-0903-2 (ч.1)**
**ISBN 978-985-11-0902-5**

# УВОДЗІНЫ

Францыск Скарына з'яўляецца, верагодна, самым яркім і найбольш вядомым творцам беларускай культуры, здольным прадставіць яе ва ўсёй шматграннасці і паўнаце. Гэта сапраўды чалавек-энцыклапедыя і ўніверсальная асоба. Яго талент праяўляўся літаральна ва ўсім: беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, выдавец, перакладчык Бібліі на родную мову, пісьменнік, філосаф-гуманіст, тэолаг, вучоны, лекар, батанік, грамадскі дзеяч, прадпрымальнік…

Нашаму сучасніку складана нават уявіць, якім чынам гэтыя абсалютна розныя іпастасі спалучаліся ў асобе аднаго чалавека. Як у часы Скарыны, гэтак і сёння наяўнасць такога шматбаковага таленту з'яўляецца вялікай рэдкасцю. Аднак, верагодна, толькі дзякуючы сваім надзвычайным здольнасцям Францыск Скарына здзейсніў сапраўдную культурную рэвалюцыю, адкрыў перад нашымі продкамі прастору новых магчымасцей і шляхоў далейшага развіцця, ні многа ні мала — змяніў увесь сусвет беларусаў.

Францыск Скарына першым з усходніх славян выдаў кнігу друкарскім спосабам і зрабіў кніжнае слова (а праз яго і ўсе веды чалавецтва) даступным для "люду паспалітага", гэта значыць для ўсіх і для кожнага. Гэтым самым была адкрыта новая эпоха ў культурным развіцці нашага народа. Менавіта таму беларускага першадрукара называюць сапраўдным волатам эпохі Адраджэння.

Пры ўсім гэтым Скарына заўсёды заставаўся патрыётам сваёй зямлі. Для яго вобраз паўнацэннага грамадзяніна непарыўна звязаны з наяўнасцю патрыятычнага пачуцця, любові да роднай зямлі. У сваіх працах Скарына сцвярджае права людзей ганарыцца і любіць сваю айчыну, выступае за роўнасць усіх народаў між сабою і за каштоўнасць кожнага з іх паасобку. Выконваючы свой уласны запавет слаўны палачанін у кожнай са сваіх кніг абавязкова падкрэсліваў уласнае паходжанне і з нязменнай павагай да роднага места пазначаў, што кніга "выкладзена доктарам Францыскам Скарынам са слаўнага горада Полацка".

Інтэлектуальны пасыл нашага першадрукара быў скіраваны на ўсе саслоўі беларускага грамадства 16 стагоддзя. І пры ўсім гэтым выказаныя асветнікам погляды і думкі застаюцца надзвычай актуальнымі і важнымі нават сёння — праз 500 гадоў пасля іх з'яўлення.



*Полацк
на гравюры
16 стагоддзя*



Жыццё Францыска Скарыны — жыццё асветніка. Гэта жыццё чалавека, які звязаў сябе з перадачай ведаў пра свет сваім сучаснікам і нашчадкам. Але каб набыць тыя багатыя веды Скарына мусіў прайсці шлях маральнага і інтэлектуальнага самаўдасканалення праз навучанне ў самых розных вучэбных установах Беларусі і замежжа.

Пачатковую адукацыю Францыск Скарына атрымаў у буйнейшым духоўным цэнтры тагачаснай Беларусі — родным горадзе Полацку. Гэты горад быў знакаміты сваёй старажытнай незалежнасцю, гаспадарчай, царкоўнай актыўнасцю, багатай духоўнай спадчынай, велічнымі праваслаўнымі храмамі з іх кніжна-пісьмовымі і мастацкімі традыцыямі, буйнымі бібліятэкамі і архівамі. Здаўна ў Полацку развівалася сістэма навучан-

*Дворык Полацкага ўніверсітэта сёння*



ня моладзі. Менавіта таму тут узгадаваліся многія вядомыя асветнікі, у тым ліку святая Еўфрасіння Полацкая, Францыск Скарына і Сімяон Полацкі.

Як мяркуюць даследчыкі, першапачатковую адукацыю Скарына мог атрымаць у Полацкім бернардзінскім манастыры, які дзейнічаў у горадзе з 1498 года. Бернардзінскі манаскі ордэн здолеў найбольш эфектыўна стварыць не беларускіх землях сетку манастыроў, якія пачынаючы з 15 стагоддзя распачалі адукацыйную і місіянерскую дзейнасць.

Менавіта ў Полацку Францыск Скарына мог вывучаць лацінскую мову (у той час яна не вывучалася ў праваслаўных школах Беларусі), бо, як паказала далейшае развіццё падзей, у наступныя гады ён ужо паспяхова карыстаўся гэтай мовай падчас навучання і працы за мяжою. Мала верагодна, што Скарына мог вывучыць гэту складаную мову самастойна ці праз кантакты за заезджымі гандлярамі.

Пра сувязь з бернардзінамі можа таксама сведчыць і імя Скарыны, верагодна дадзенае пры хрышчэнні ў гонар святога Францыска — апекуна бернардзінскага ордэна.

Полацкія бернардзіны мелі цесныя сувязі з віленскімі братамі. Гэта магло паспрыяць пераезду Скарыны ў сталіцу Вялікага Княства Літоўскага — Вільню. Сваю пачатковую адукацыю Скарына, верагодна, пашырыў у каталіцкай кафедральнай школе ў Вільні, якая была найбольш вядомай з усіх каталіцкіх школ у ВКЛ. Тут ён завяршыў сваю школьную вучобу, пасля чаго прыняў рашэнне паступаць ва ўніверсітэт.



*Старажытная гравюра з выявай настаўніка і студэнтаў*

У тыя часы многія з выпускнікоў віленскай кафедральнай школы працягвалі вучобу ў Кракаўскім універсітэце. Менавіта такое рашэнне прыняў і Францыск Скарына. У 1504 годзе ён паступіў у Кракаўскі ўніверсітэт. Гэты ўніверсітэт быў заснаваны яшчэ ў 1364 годзе, пасля рэарганізаваны і зноў адкрыты ў 1400 годзе. Цесныя палітычныя стасункі паміж Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім паспрыялі з'яўленню ў Кракаве студэнтаў з Беларусі: для іх гэта быў самы блізкі, адносна танны і даступны з усіх універсітэтаў Еўропы. Таму колькасць студэнтаў універсітэта родам з Вялікага Княства Літоўскага ў часы Скарыны дасягала 2%.





Кракаўскі ўніверсітэт знаходзіўся пад кантролем і ўплывам каталіцкай царквы і быў прызваны спрыяць пашырэнню каталіцтва на польскіх, беларускіх, літоўскіх, украінскіх і іншых землях. У той жа час з яго сцен выйшлі шматлікія асветнікі і рэфарматары, якія часам нават супрацьпастаўлялі сябе традыцыйнаму хрысціянству, як напрыклад, Сымон Будны.

У 1504 годзе ва ўступных дакументах Кракаўскага ўніверсітэта з'явіўся запіс “Францыск, сын Лукі з Плоцка” (Полацка) і побач запіс пра выплату ўступнага ўзносу ў 2 грошы. Падчас навучання Францыск Скарына жыў у адной з некалькіх бурсаў (інтэрнатаў), верагодна — у найстарэйшай бурсе ўніверсітэта — “Паўперум”. Навучанне патрабавала ад студэнтаў адданасці і настойлівасці. Іх жыццё было даволі суровым і аднастайным, было падобным на побыт манахаў: строгая рэгламентацыя заняткаў і працы, кантроль

*Дворык Падуанскага ўніверсітэта*






***Дыплом Падуанскага ўніверсітэта ўзору 1582 года***

за вучэбным і вольным часам, апека і нагляд за студэнтамі. Многія студэнты жылі вельмі бедна, наймаліся на працу да магістраў і прафесараў універсітэта.

Францыск Скарына паступіў на пачатковы факультэт універсітэта — факультэт вольных мастацтваў (арціум), альбо філасофскі факультэт. На працягу двух гадоў навучання (мінімальны тэрмін навучання) малады палачанін вывучаў так званыя “сем вольных навук”, у лік якіх тады ўваходзілі граматыка, рыторыка, логіка, арыфметыка, геаметрыя, музыка і астраномія. У сваіх пазнейшых выданнях Скарына апісваў гэту навуковую сістэму, якая дазваляла атрымаць важнейшыя веды аб навакольным свеце і займець грунтоўную адукацыю. Шмат увагі студэнты надавалі таксама вывучэнню філасофіі Арыстоцеля і Платона, твораў антычных аўтараў Цыцэрона і Вергілія, а таксама лацінскай мовы.

Пасля завяршэння курса навучання ў Кракаўскім універсітэце Скарына выдатна здаў экзамен на ступень бакалаўра арціум (сямі вольных навук). Гэта давала яму права працаваць педагогам і чытаць студэнтам некаторыя курсы.

На гэтым навучанне Францыска Скарыны не скончылася. Ён вырашыў працягнуць сваю адукацыю ў галіне медыцыны. На жаль, мы сёння дакладна не ведаем, дзе ён набыў медыцынскія веды, бо ў італьянскім горадзе




***Студэнты паводле гравюры 16 стагоддзя***



Падуі, дзе ён абараніў вучоную ступень ў "лекарскіх навуках", навучанне на той час афіцыйна не вялося. Не выключана, што медыцыну ён вывучаў у тым жа Кракаве, дзе ў пачатку 16 ст. ужо дзейнічалі 2 медыцынскія кафедры. Аднак гэтыя кафедры на той час яшчэ не давалі права абароны вышэйшай навуковай ступені, за якой Скарына мог скіравацца ў Падую.

Аднак ён мог працягнуць сваё навучанне і непасрэдна ў Падуі, дзе многія з выкладчыкаў часова закрытага ўніверсітэта выкладалі ў хатніх умовах. На карысць гэтай версіі таксама сведчыць цікавасць Скарыны да батанікі і яго пазнейшая праца над стварэннем Каралеўскага сада ў Празе. Справа ў тым, што менавіта ў Падуі ў 16 стагоддзі актыўна развівалася навука пра расліны (батаніка) і ў выніку быў заснаваны адзін з самых старажытных батанічных садоў у Еўропе. Скарына не мог не сачыць за актуальнымі навуковымі тэндэнцыямі падчас знаходжання ў гэтым горадзе. Як бы тое ні было, у 1512 годзе ён бліскуча вытрымаў экзамен на ступень доктара медыцыны ў праслаўленым Падуанскім універсітэце.

**У 2013 годзе каля галоўнага корпуса Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта быў устаноўлены помнік студэнту — бронзавая статуя, якая нагадвае знакамітага беларускага дзеяча эпохі Адраджэння і звяртае на сябе ўвагу ўсіх студэнтаў і выпадковых мінакоў. Паводле аўтарскай задумы скульптара Паўла Лука, у аснову гэтага вобраза лёг вобраз Францыска Скарыны — аднаго з самых вядомых студэнтаў Беларусі.**








Вялікім гонарам і дасягненнем як сёння, так і ў часы Скарыны было дасягнуць вышэйшай прыступкі ў навуковай іерархіі — ступені доктара навук. І гэта вяршыня не стала недасяжнай для нашага знакамітага суайчынніка, чым ён, бясспрэчна, ганарыўся. Сам Скарына неаднаразова называў сябе ў сваіх выданнях доктарам філасофіі і доктарам "у лекарскіх навуках".

На жаль нам дагэтуль невядома, дзе ён атрымаў вучоную ступень доктара філасофіі. Магчыма, ён здолеў гэта зрабіць у Кракаўскім або ў Пражскім універсітэце. Даволі часта маладыя юнакі пасля атрымання ступені бакалаўра філасофіі працягвалі сваё навучанне і выходзілі на атрыманне доктарскіх рэгалій.



*Доктарскі дыплом Мікалая Каперніка, атрыманы ў горадзеФерары ў 1503 годзе*



*Рэканструкцыя кабінета сярэдневяковага вучонага ў Маскоўскім планетарыі*

Калі ж час і месца атрымання Скарынам ступені доктара філасофіі нам не вядомы, то пра яго іншую навуковую ступень гістарычныя крыніцы захавалі некаторую інфармацыю. Восенню 1512 года ён бліскуча вытрымаў экзамен на ступень доктара медыцыны ў славутым Падуанскім універсітэце. 5 лістапада адбылося прадстаўленне беларускага юнака калегіі найслаўнейшых падуанскіх дактароў філасофіі і медыцыны, якія сабраліся ў царкве святога Урбана. Вядучы цырымоніі — віцэ-прыёр Тадэй Мусаці — адзначыў у сваіх уступных словах, што ў Падую прыбыў нейкі вельмі вучоны малады чалавек, доктар філасофіі, які звярнуўся да калегіі з просьбай, каб яму дазволілі здаць экзамены бясплатна, што яму і было дазволена. Малады чалавек назваў сябе русінам, які прыбыў з вельмі аддаленых краін.



***Кабінет вучонага эпохі Адраджэння. Антанэла да Месіна. Святы Еранім за працай. 1475 год***








*Зала сарака ў Падуанскім універсітэце з партрэтам Скарыны*

На наступны дзень у той жа царкве ў прысутнасці 14 прафесараў і дактароў калегіі беларус Францыск Скарына паспяхова вытрымаў папярэднія дыскусіі і дыспуты з выдатнымі вучонымі і быў дапушчаны да асноўнага экзамену па медыцыне. Пасля ўсіх выпрабаванняў, 9 лістапада 1512 года ў біскупскім палацы ў прысутнасці вядомых вучоных, грамадскіх і царкоўных асоб Падуі Скарына быў абвешчаны доктарам медыцыны.

Гэта была знамянальная падзея не толькі ў яго жыцці, але і ў гісторыі беларускай культуры: сын Полацкага купца здолеў пераканаўча даказаць, што здольнасці і прызванне важнейшыя за арыстакратычнае паходжанне. Больш таго, малады вучоны, што прыехаў у Італію з далёкага Полацка, гэтак уразіў мясцовых інтэлектуалаў, што яго партрэт быў змешчаны ў зале славы Падуанскага ўніверсітэта сярод сарака найбольш вядомых выпускнікоў. Прычым партрэт беларуса быў змешчаны ў гэтай зале другім, адразу пасля партрэта Галілео Галілея.

**У пратаколах калегіі Падуанскага ўніверсітэта пра Скарыну было запісана: "Ён праявіў сябе настолькі слаўна і дастойна ў час гэтага строгага экзамену, калі выкладаў адказы на зададзеныя яму пытанні і калі абвяргаў прапанаваныя яму доказы, што атрымаў адзінадушнае ўхваленне ўсіх прысутных вучоных без выключэння..."**



У антычным свеце, у часы Сярэдневякоўя і Адраджэння (Рэнесансу) медыцына лічылася адной з вядучых навук. Яна прыцягвала ўвагу многіх выдатных дзеячаў еўрапейскай рэнесанснай культуры, у тым ліку такіх слаўных як Леанарда да Вінчы.

Францыска Скарыну, як чалавека прагматычнага, выхадца з мяшчанскага асяроддзя, у большай ступені цікавілі практычныя аспекты медыцынскіх ведаў, якія дазвалялі займацца лекарскай дзейнасцю. Цікавасць да медыцыны магла праявіцца ў яго яшчэ падчас навучання ў Кракаўскім універсітэце, дзе ў пачатку 16 стагоддзя ўжо дзейнічалі дзве медыцынскія кафедры.



*Выява медыка на нямецкай гравюры 15 стагоддзя*

Сваю медыцынскую адукацыю Скарына працягнуў, як вядома, у Падуанскім універсітэце, дзе ў пачатку 16 стагоддзя працавала ажно 13 медыцынскіх кафедраў. Асноўная ўвага пры выкладанні медыцыны ў Падуі надавалася вывучэнню і тлумачэнню класічных прац Авіцэны, Гіпакрата, Галена, але як раз у гэтыя часы адбывалася ўзмацненне практычнай часткі ў навучальным працэсе.

Звычайна, для атрымання ступені доктара неабходна было засвоіць пяцігадовы вучэбны курс медыцыны. Аднак вядома, што ў сувязі з ваеннымі дзеяннямі ў Венецыянскай Рэспубліцы Падуанскі ўніверсітэт быў зачынены ў 1509–1516 гг. У сувязі з гэтым гісторыкі вагаюцца ў меркаваннях наконт таго, дзе ж Скарына здолеў атрымаць медыцынскую адукацыю. Магчыма, такім месцам быў Кракаўскі ўніверсітэт, дзе ў той час ўжо працавалі дзве кафедры медыцыны, але яны не мелі права на зацвярджэнне доктарскіх ступеняў. Аднак больш верагодным падаецца, што малады палачанін вучыўся ў самой Падуі. Ёсць меркаванне, што некаторыя кафедры нават у гэты час працягвалі працаваць, а многія выкладчыкі працавалі ў хатніх умовах. Урэшце сам факт склікання калегіі для абароны Францыска Скарыны як раз у час ваенных дзеянняў сведчыць пра тое, што Падуанскі ўніверсітэт працягваў дзейнічаць у гэты перыяд.



Пасля завяршэння навучальнага курсу як адзін з першых русінаў (так называлі сябе тагачасныя беларусы і ўкраінцы) у 1512 годзе Францыск Скарына абараніў дысертацыю на вельмі прэстыжную ступень доктара ў "лекарскіх навуках".

Медыцынскія веды і доктарская ступень, верагодна, не раз саслужылі добрую службу беларускаму асветніку. Так, напрыклад, вядома, што з сярэдзіны 20-х гадоў 16 стагоддзя Скарына адначасова выконваў функцыі сакратара віленскага біскупа і займаўся медыцынскай дзейнасцю.



***Выява лекара, змешчаная ў ініцыяле сярэдневяковага рукапісу***

Ёсць і іншыя сведчанні медыцынскай дзейнасці Францыска Скарыны. Напрыклад, вядома, што па нейкіх прычынах ён у 1530 годзе наведаў Кёнігсберг (сучасны Калінінград). Верагоднай прычынай для такога візіту многія лічаць пашырэнне ў тых краях небяспечнай эпідэміі — англійскай гарачкі. Тады вялікі герцаг Альбрэхт Брандэнбургскі звярнуўся па дапамогу да медыкаў суседніх краін і Скарына, мусіць, адгукнуўся.

Яшчэ цікава, што, вяртаючыся з Кёнігсберга ў Вільню, Скарына вывез з сабою двух майстроў — яўрэя лекара і друкара. Нават апошнія гады жыцця былі звязаны з медыцынскай дзейнасцю: чэшскі кароль Фердынанд I запрасіў Францыска Скарыну ў Прагу для працы ў якасці каралеўскага медыка і садоўніка. Усё гэта сведчыць пра захаванне ў беларускага вучонага і асветніка цікавасці да медыцынскай практыкі.



***Лекары аглядаюць пракажонага. Нямецкая гравюра 1500 года***

**Здаецца, што і сын асветніка — Сімяон Скарына — пераняў ад бацькі яго здольнасці і таленты. Гістарычныя хронікі захавалі звесткі, што паслугамі нейкага лекара Сімяона "па прозвішчы Рус з Полацка" у 1570-х гадах карыстаўся старшы святар Бехінскага краю ў паўднёвай Чэхіі Іржык Чэтл.**



*Кабінет аптэкара часоў Адраджэння*



Яшчэ падчас навучання і абароны доктарскай дысертацыі ў Падуанскім універсітэце Францыск Скарына, верагодна, зацікавіўся батанікай, бо вывучэнне лекавых раслін было абавязковым для будучых медыкаў. Нездарма менавіта пры Падуанскім універсітэце ў 1545 годзе быў заснаваны найбольш старажытны з пастаянна дзеючых батанічных садоў свету.

Свае здольнасці беларускі асветнік і вучоны мог праявіць у Вільні пасля вяртання на радзіму з Падуі ці Прагі. Справа ў тым, што прыблізна ў гэты час непадалёк ад Віленскага бернардзінскага манастыра (а мы ведаем, што Скарына быў цесна звязаны з бернардзінамі) быў створаны так званы Бернардзінскі сад. Гэты маляўнічы сад знаходзіцца ў самым цэнтры горада, непадалёк ад замкавай гары і каралеўскіх палацаў. Што цікава, Бернардзінскі сад у Вільні дагэтуль з'яўляецца не толькі месцам адпачынку жыхароў горада, ціхім і ўтульным месцам, але і важным турыстычным аб'ектам.

У поўнай меры талент Скарыны-садоўніка праявіўся ў сярэдзіне

*Батанічны сад, заснаваны ў 1545 годзе пры Падуанскім універсітэце*



1530-х гадоў, калі ён канчаткова выехаў за мяжу і пасяліўся ў добра знаёмай яму Празе. У Празе яго веды былі выкарыстаны чэшскім каралём Фердынандам I, які запрасіў Францыска Скарыну для працы ў якасці каралеўскага медыка і садоўніка (“заградніка”) у нядаўна адкрытым Каралеўскім садзе на Градчанах. Пасля доўгіх пошукаў добрага садоўніка, якога не атрымалася знайсці ў самой Празе, кароль сам 22 мая 1535 года паслаў такога чалавека з Вены. Гэтага чалавека звалі Францыска і ён лічыўся італьянскім садоўнікам. Верагодна, гэтым італьянскім садоўнікам быў ніхто іншы як наш Францыск Скарына, які меў добрую італьянскую адукацыю ў галіне медыцыны і батанікі.

У Каралеўскім садзе на Градчанах Скарына разводзіў паўднёвыя расліны. У 1539 годзе разам з ім у садзе пачаў працаваць доктар Вэніус з Галандыі. Аднак у сувязі з эканамічнымі цяжкасцямі ў тым жа годзе абодва каралеўскія садоўнікі былі звольнены з працы. Але вынік працы беларускага вучонага-батаніка быў відавочным: ён стварыў у Празе цудоўны італьянскі рэнесансны сад. Пасля ім займаліся

*Сучасны выгляд батанічнага сада ў Падуі*







*Каралеўскі сад на Градчанах у Празе, закладзены Францыскам Скарынам*



*Сучасны выгляд*
*Бернардзінскага сада ў Вільні*

многія слаўныя майстры. У 1757 годзе Каралеўскі сад быў трансфармаваны ў парк французскага тыпу.

Францыска пасля гэтага пераехаў да караля ў Вену і пэўны час жыў у Аўстрыі. Тым не менш, праз некаторы час Скарына, відаць, усё ж вярнуўся ў Прагу, дзе і прайшлі яго апошнія гады. Пра гэта сведчыць каралеўская грамата ад 29 студзеня 1552 года, якая была ўручана сыну Францыска Скарыны Сімяону.

Як і ў выпадку з медыцынскай дзейнасцю, бацькаву справу падхапіў сын асветніка — Сімяон "Рус" Скарына. Дакументы сведчаць, што ў 1570-я гады "стары заграднік (садоўнік) Рус з Полацка — Шымон Русак" працаваў садоўнікам у прыватнаўласніцкім маёнтку ў Градцы.



**Сёння ў Празе, побач са старажытным Каралеўскім садам на Градчанах усталяваны помнік беларускаму першадрукару. Яго адкрыццё адбылося 30 лістапада 1996 года ў скверы на Брусніцэ. Аўтарам гэтага — аднаго з найпрыгажэйшых — помніка першадрукару з'яўляецца скульптар Эдуард Астаф'еў.**



У біяграфіі Францыска Скарыны ёсць адзін недастаткова вывучаны і складаны момант — гэта яго праца ў якасці сакратара караля Дацыі. Менавіта такія біяграфічныя звесткі пра Скарыну змешчаны ў дакументах Падуанскага ўніверсітэта.

Скарыназнаўцы па-рознаму тлумачаць сэнс гэтых слоў. Некаторыя лічаць, што пад Дацыяй трэба разумець Дакію — гістарычную вобласць часоў антычнасці, дзе сёння знаходзяцца Румынія і Малдова. Аднак гэтыя землі на Балканах у часы Скарыны звычайна называліся Валахіяй. Да таго ж свайго караля на гэтых землях зусім не было. На карысць гэтай версіі ўскосна сведчыць хіба толькі факт, што ў Валахіі як раз у гэтыя гады ішла праца над падрыхтоўкай сваіх кірылічных выданняў друкара Макарыя, а таму Скарына мог мець да яе некаторае дачыненне. Але для справядлівасці трэба адзначыць, што выданні Макарыя і Скарыны вельмі істотна адрозніваюцца нават проста візуальна.

Таму большасць даследчыкаў схіляецца да думкі, што гутарка ідзе пра караля Даніі, пры двары якога мог служыць Францыск Скарына. У та-



***Венскі кангрэс 1515 года***



гачасным справаводстве як італьянскіх універсітэтаў, так і ў міжнароднай карэспандэнцыі Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы пад Дацыяй звычайна разумелася менавіта Данія.

Праца Скарыны ў Капенгагене, дзе сапраўды знаходзілася рэзідэнцыя караля Даніі, магла быць звязанай з ажыўленнем дыпламатычных зносін Польшчы, Вялікага Княства Літоўскага і Дацкага каралеўства. Тэарэтычна, Францыск Скарына мог быць сакратаром ці членам пасольства ад караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта І, якое было накіравана ў Капенгаген у 1509 годзе для заключэння дагавору аб дружбе. У тыя гады Данія знаходзілася ў сітуацыі канфлікту з суседняй моцнай Швецыяй і таму была зацікаўлена ў заключэнні саюза з іншымі краінамі. Пасля вяртання пасольства на радзіму Скарына меў магчымасць застацца ў канцылярыі дацкага караля Ханса.

Праца Скарыны ў дыпламатычных місіях і ў якасці каралеўскага сакратара сведчыць пра яго агульныя схільнасці да вывучэння замежных моў, а ў прыватнасці — пра добрае валоданне лацінскай мовай, як мовай міждзяржаўных стасункаў. Гэтыя веды ў далейшым спатрэбіліся яму пры перакладзе Бібліі. З іншага боку, сакратарская праца спрыяла наладжванню адносін з еўрапейскімі дзяржаўнымі дзеячамі, вучонымі, педагогамі і інш. Дацкі кароль, магчыма, улічваў таксама, што Скарына бліскуча валодаў беларускай і польскай мовамі — дзяржаўнымі мовамі саюзных Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага.




***Максіміліян І, Марыя Аўстрыйская, Людовік ІІ, Уладзіслаў ІІ, Ганна, Жыгімонт І. Дрэварыт А. Дзюрэра***

На гэтым сакратарская праца Скарыны магла не скончыцца. Некаторыя даследчыкі лічаць, што ён мог знаходзіцца ў складзе дэлегацыі вялікага князя літоўскага і караля польскага Жыгімонта Старога на Венскі кангрэс 1515 года. На кангрэсе абмяркоўваліся дачыненні паміж еўрапейскімі дынастыямі, а найперш гаворка ішла пра дынастычныя стасункі чэшскіх каралёў з дынастыі Ягелонаў.





*Палац вялікіх князёў літоўскіх у Вільні*



*Уладзіславаўская (тронная) зала Каралеўскага палаца ў Празе. Гравюра пачатку 17 стагоддзя*

Пасля завяршэння кангрэсу Скарына мог застацца ў Празе, каб працягваць службу пры двары маладога чэшскага караля Людовіка, які быў пляменнікам Жыгімонта Старога. Гэта ў далейшым магло паспрыяць пачатку выдавецкай дзейнасці Скарыны ў Празе.

**У чацвёртым пратаколе Падуанскай епіскапскай курыі ад 9 лістапада 1512 года пра толькі што абранага доктарам медыцыны Францыска Скарыну сказана: "знакаміты муж пан магістр Францыск, сын нябожчыка пана Лукі Скарыны з Полацка, русін, сакратар караля Дацыі".**



*Уладзіславаўская (тронная) зала Каралеўскага палаца ў Празе ў нашы дні*



# САКРАТАР ВІЛЕНСКАГА БІСКУПА



Вядомай і вельмі ўплывовай асобай у Вялікім Княстве Літоўскім быў віленскі каталіцкі біскуп (епіскап) Ян. Апрача таго, што ён кіраваў усёй каталіцкай царквой у дзяржаве, ён яшчэ і ўваходзіў у склад самых высокіх органаў кіравання Вялікага Княства Літоўскага. Быў яшчэ і суб'ектыўны фактар, які значна ўзвялічваў ролю біскупа Яна ў краіне: ён з'яўляўся пазашлюбным сынам вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага і караля Польшчы Жыгімонта Старога.

Як вядома, у 1519 годзе Ян стаў віленскім біскупам. Верагодна, менавіта па гэтай прычыне Францыск Скарына вырашыў пакінуць Прагу, пераехаць і працягнуць сваю працу ў



*Віленскі біскуп Ян. Карціна невядомага мастака 17 стагоддзя*



*Палац віленскіх біскупаў (цяпер Прэзідэнцкі палац) у 1850 годзе*



*Віленскія замкі і Кафедральны храм горада – рэзідэнцыя каталіцкага епіскапа. Гравюра Т. Макоўскага. 1604 год*







*Палац віленскіх біскупаў на гравюры Напалеона Орды канца 19 стагоддзя*

Вільні. Як сведчаць дакументы 1525 года, Францыск Скарына непасрэдна працаваў пры двары віленскага біскупа. Згадаем, што менавіта ў гэтым годзе выйшаў "Апостал" Скарыны. Магчыма, менавіта Ян быў апекуном выдавецкай дзейнасці Скарыны ў Вільні.

Безумоўна, праца ў якасці сакратара каталіцкага архірэя патрабавала ад Скарыны не толькі добрага ведання лацінскай, беларускай і польскай моў, але таксама добрай арыентацыі ў хрысціянскай дагматыцы, здольнасці шукаць і знаходзіць паразуменне паміж канфесіямі. Магчыма, Францыск Скарына атрымаў апрача філасофскай і медыцынскай адукацыі таксама і адукацыю багаслоўскую. Без гэтага цяжка сабе ўявіць як працу над перакладам, выданнем і тлумачэннем кніг Бібліі, так і працу сакратаром епіскапа.

**Сам факт працы на каталіцкага епіскапа і адначасовага друкавання кніг для праваслаўных чытачоў выклікае здзіўленне і вялікую цікавасць з боку даследчыкаў.**



Самая вялікая справа жыцця Францыска Скарыны — пераклад і выданне кніг Біблії для сваіх суайчыннікаў. Гэта місія вымагала вырашэння некалькіх задач, першай з якіх з'яўляецца падрыхтоўка перакладу Святога Пісання.

Надзвычай актыўная выдавецкая дзейнасць нашага земляка ў Празе на працягу кароткага храналагічнага перыяду можа сведчыць пра тое, што ёй папярэднічала працяглая праца над перакладам кніг Біблії, якая пачалася задоўга да выхаду кніг з друку. Верагодна, гэта адбылося адразу пасля сканчэння Скарынам Кракаўскага ўніверсітэта ці пасля атрымання ступені доктара медыцыны.

Вялікай мужнасці ад асветніка патрабавала нават само толькі жаданне даць сваім землякам, прычым не толькі багатым і высокаадукаваным, але ўсім ("люду паспалітаму"), магчымасць прачытаць самую галоўную кнігу тагачаснага свету — Біблію — на жывой і зразумелай народу мове. У тыя часы падобныя пачынанні з афіцыйнага пункту гледжання каталіцкай і праваслаўнай цэркваў зусім не віталіся, а часам нават успрымаліся як абсалютна немагчымыя. Вельмі часта менавіта з працы над перакладам Біблії на нацыянальныя мовы былі звязаны царкоўныя рэформы і змены ва ўсім грамадстве. Што ж казаць, калі большасць перакладаў Біблії на нацыянальныя мовы была зроблена менавіта царкоўнымі рэфарматарамі, стаўленне да якіх афіцыйная царква мела вельмі негатыўнае (напрыклад, пераклад Лютэрам Біблії на нямецкую мову, гусітамі — на чэшскую і інш.).



***Дзесятаглаў — першы беларускі пераклад Святога Пісання***



*Святы Еранім — перакладчык Бібліі і прыклад для Скарыны. Мастак Жорж дэ Латур. 1621–1623 гады*





***Святы Еранім за працай. Гравюра А. Дзюрэра з выявай найбольш вядомага перакладчыка Бібліі, які быў узорам для Скарыны. 1514 год***



Тым не менш, эпоха Адраджэння стварыла магчымасці для таго, каб Святое Пісанне пабачыла свет на розных мовах розных народаў свету. Сам Скарына называў свой пераклад Бібліі "рускім", што ў тэрміналогіі таго часу азначае — беларускім. У той жа час трэба прызнаць, што арыентацыя гэтага выдання на выкарыстанне ва ўжытку праваслаўнай царквы патрабавала захавання выпрацаваных стагоддзямі традыцый. Таму правільней было б казаць, што пераклад Бібліі Скарынам быў зроблены на царкоўнаславянскую мову ў беларускай рэдакцыі. Пры гэтым каментарыі, прадмовы і пасляслоўі да кожнай сваёй кнігі Скарына зрабіў па-беларуску.

Ужо ў першым выданні Францыска Скарыны "Псалтыр" (1517) незразумелыя месцы ў царкоўнаславянскім тэксце былі патлумачаны больш зразумелымі роднымі словамі на палях. Скарынаўская рэдакцыя Бібліі выяўляе відавочныя рысы беларускай лексікі, марфалогіі і фанетыкі. Такія ж асаблівасці былі характэрнымі для больш ранніх рукапісных кніг Святога Пісання, якія ствараліся на беларускіх землях.

Важнейшай крыніцай для перакладу Бібліі павінны былі служыць для Скарыны ранейшыя рукапісныя пераклады на царкоўнаславянскую мову. Як вядома, з 11 стагоддзя на беларускіх землях пачалося кнігапісанне. І пачалося яно, бясспрэчна, з тэкстаў Святога Пісання. Так, найбольш раннія рукапісы — Тураўскае і Полацкае Евангеллі — гэта нішто іншае як асобныя кнігі Бібліі. У пачатку 16 стагоддзя, як раз у час працы Францыска Скарыны, з'явіўся самастойны беларускі звод Бібліі на царкоўнаславянскай мове. Гэта праца праводзілася з 1502 да 1514 года беларускімі праваслаўнымі вучонымі-манахамі ў Супраслі і Вільні. Сёння ёсць некаторыя падставы, што дазваляюць казаць пра магчымасць знаёмства Скарыны з гэтым перакладам.



*Тытульны аркуш Чэшскай Бібліі 1506 года — адной з першакрыніц перакладаў Скарыны*



Безумоўна, працуючы над перакладам Кнігі Кніг (слова "Біблія" ў перакладзе з грэчаскай мовы азначае "кнігі"), кожнае слова і фраза ў якой маюць глыбокі сэнс і безліч вельмі важных адценняў, беларускі першадрукар карыстаўся не толькі класічнымі тэкстамі на старажытных мовах (грэчаскай, лацінскай, іўрыце), але і першымі перакладамі Біблії на жывыя еўрапейскія мовы, якія ў той час як раз пачалі з'яўляцца. Сярод іх, як лічыцца, найбольшы ўплыў на пераклад Францыска Скарыны зрабіла чэшскае выданне Біблії, здзейсненае ў Венецыі ў 1506 годзе. Тым самым забяспечвалася спалучэнне ў выданнях Скарыны агульнаеўрапейскіх хрысціянскіх традыцый і традыцый славянскага свету.

Карыстаючыся як перакладамі Біблії на класічныя мовы, так і на жывыя еўрапейскія мовы, у тым ліку славянскія, Францыск Скарына таксама звяртаўся да тэалагічных прац і даследаванняў, пакінутых Айцамі Царквы, вядомымі багасловамі старажытнасці і Сярэдневякоўя, сярод якіх можна згадаць найперш Ераніма Стрыдонскага і Феадацьёна. Іх працы дазволілі зрабіць працу беларускага перакладчыка больш грунтоўнай і сістэмнай.

**Беларусы, дзякуючы Скарыне, займелі адзін з першых перакладаў Біблії, які выйшаў у выглядзе друкаванай кнігі. Гэта было зроблена раней, чым пабачылі свет выданні Біблії на нямецкай (1522), англійскай (1525), рускай (1818), украінскай (1861) і іншых мовах свету.**





# СТВАРАЛЬНІК ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ



Скарына як мовазнавец пакуль недастаткова ацэнены ў беларускай навуцы. Тым не менш, часам даводзіцца сустракаць выказванне пра яго як пра стваральніка беларускай літаратурнай мовы. І меркаванне гэта мае пад сабою некаторую глебу.

Эпоха Адраджэння стварыла неабходныя ўмовы для фарміравання і ўнармавання нацыянальных моў і стварэння на іх аснове нацыянальных літаратур. Многія мовы прайшлі шлях ад рэгіянальных гаворак, дыялектных утварэнняў да ўзроўню нацыянальных моў. І, як паказваюць многія даследаванні, вялікае значэнне ў гэтым працэсе мелі пераклады на гэтыя мовы Святога Пісання.

У гэтым сэнсе можна ўпэўнена казаць, што Францыск Скарына стаяў ля вытокаў станаўлення нацыянальнай літаратурнай мовы. Дзякуючы яго багатай пісьмовай спадчыне мы займелі вялікі пласт нацыянальнай літаратуры 16 стагоддзя з цэлым шэрагам яркіх паслядоўнікаў — рэфарматараў і пісьменнікаў, якія ўзнялі родную мову на вышыню даска-




*Слоўнік мовы Скарыны*



налай і самабытнай літаратурнай мовы. Мовы многіх з нашых суседзяў дасягнулі такога ўзроўню стагоддзямі пазней. Магчыма, менавіта дзякуючы адданай працы Францыска Скарыны і яго паслядоўнікаў у 16 стагоддзі беларуская мова ў поўнай меры аформілася ў выглядзе дзяржаўнай мовы шматнацыянальнага Вялікага Княства Літоўскага. І нават у Статутах — канстытуцыйных актах Вялікага Княства Літоўскага — гэты статус беларускай мовы быў замацаваны юрыдычна.

*Францыск Скарына як сімвал для студэнтаў-гуманітарыяў Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта*





Скарына выступаў у ролі паслядоўнага моўнага рэфарматара і абаронцы права свайго народа на карыстанне роднай мовай. Як мяркуюць даследчыкі, Францыск Скарына як высокаадукаваны і вопытны лінгвіст і перакладчык не толькі ішоў услед за моўным працэсам, але ў нечым прадвызначаў і накіроўваў яго. На падставе царкоўнаславянскай моўнай стылістыкі ён ствараў узнёслы і ўрачысты настрой пры ўспрыняцці Бібліі, а беларуская моўная стыхія дадавала ў гэта адчуванне жывасці і натуральнасці.

Як засведчылі айчынныя і замежныя навукоўцы, моўнае наватарства Францыска Скарыны займала і займае пачэснае месца ў слоўнікавым складзе беларускай мовы з даўніх часоў да нашых дзён. Выданні Францыска Скарыны ўяўляюць вялікую каштоўнасць для тых, хто хоча прасачыць гістарычны шлях станаўлення беларускай літаратурнай мовы, фарміравання яе асноўных рыс і замацавання важнейшых моўных правіл.

Дзякуючы літаратурнай творчасці і выдавецкай дзейнасці Францыска Скарыны жывое, але вуснае беларускае слова набыло меладыйную і эстэтычную выразнасць, стала сапраўдным сродкам навуковай камунікацыі і мастацкага ўздзеяння на грамадства.

Дзякуючы пашырэнню друкаванай кнігі (у адрозненне ад адзінкавых асобнікаў рукапіснай кнігі) беларускае слова ўвайшло ў кола еўрапейскага і агульнасусветнага моўнага працэсу. Тым самым перад замежнай чытацкай аўдыторыяй паўстала не толькі беларуская кніга, але і ўся беларуская культура.

**У прадмове да самай першай сваёй кнігі “Псалтыр” Францыск Скарына змясціў ключавыя думкі да разумення сваёй пазіцыі як перакладчыка і мовазнаўца: Я, Францішак, Скарынаў сын, з Полацка, у лекарскіх навуках доктар, бачачы карысць ад такой малой кнігі, загадаў друкаваць Псалтыр рускімі словамі на славянскай мове — найперш дзеля ўшанавання і праслаўлення Бога, у Тройцы адзінасутнага, і Яго Прачыстай Маці Марыі, і ўсіх нябесных чыноў і святых Божых, а затым дзеля ўсеагульнага дабра — перадусім таму, што міласцівы Бог пусціў мяне на свет з гэтага народа... Таксама змясціў я для простых людзей на палях некаторыя словы, ні ў чым не парушаючы самога Псалтыра, як: “онагри” і “геродеево жилище”, і “хлябие”, і іншыя словы, што маюцца ў Псалтыры, незразумелыя для простых людзей. Знойдуць на палях, што каторае з гэтых словаў азначае па-руску (гэта значыць па-беларуску)”.**





Францыск Скарына пакінуў пасля сябе багатую спадчыну. У тым ліку як пісьменнік. І праявіў ён сябе на літаратурнай ніве вельмі ярка. Нездарма сёння яго імя стаіць у адным шэрагу з выбітнымі майстрамі мастацкага слова, а творчасць вывучаецца ва ўсіх беларускіх школах у тым ліку ў курсе беларускай літаратуры. Такімі творамі з'яўляюцца напісаныя самім Скарынам прадмовы і пасляслоўі да кожнага свайго выдання.

Скарынава слова вабіць да сябе не толькі даследчыкаў, але і аматараў прыгожага пісьменства. Паэтычнасць, афарыстычнасць, эмацыянальная выразнасць у тэкстах Скарыны сведчаць пра яго вялікі пісьменніцкі талент. Дасканалая стылістыка сказаў і майстэрскае кампанаванне тэксту дазволілі аўтару падаць даволі складаныя багаслоўскія і філасофскія праблемы ў даступнай і па-мастацку дасканалай форме. Гэтаму спрыяе таксама наяўнасць паслядоўнай і лагічнай структурнай будовы прадмоў Скарыны: услед за ўступам ідзе асноўны аповед, пасля аўтар займаецца распрацоўкай (тлумачэннем і доказваннем сваёй пазіцыі і абвяржэннем процілеглай), а ў самым канцы знаходзіцца заключэнне.

У межах адносна невялікіх аўтарскіх твораў беларускага асветніка мы знаходзім спалучэнне розных стыляў пісьма, розных жанраў і форм. Гэта звязана з тымі вялікімі і рознааспектнымі задачамі, якія ставіў перад сабою Францыск Скарына. У яго прадмовах спалучаюцца элементы каментарыя, аповеду, пропаведзі, гімна, экзэгезы (тлумачэння Святога Пісання).

Як каментатар тэкстаў і апавядальнік, ён выглядае грунтоўна, паслядоўна выказвае свае думкі і развагі, заўжды мае сваю аўтарскую пазіцыю. А як прапаведнік, Скарына — эмацыянальны і ўзрушаны, зацікаўлены ў тым, каб яго пачулі і зразумелі. Ён дасягае спачування і зацікаўленасці чытача, яго саўдзелу ў тлумачэнні выкладзеных ісцін. У гэтым ён дэманструе сапраўднае майстэрства.

Творы Скарыны — гэта не маналог разумнага настаўніка, а дыялог з чытачом, сумоўе. Усё гэта характэрныя прыкметы пропаведзі. Чытаючы працы Скарыны, міжволі адчуваеш, што аўтар не фармальна выкладае сутнасць праблемы і прыводзіць аргументы на карысць свайго бачання. Ён вядзе зацікаўленую, эмацыянальную адрасную дыскусію з чытачом. Ён звяртаецца не да абстрактнага субяседніка, што часта можна бачыць у сярэдневяковых тэкстах, а да жывога і канкрэтнага чытача, які ў гэту хвіліну чытае яго кнігу.

Не менш таленавіта Францыск Скарына выявіў сябе як аўтар гімнаграфічных твораў. Нездарма часам яго называюць "знакамітым рыцарам сваёй эпохі", бо канцэнтраванасць стыля-



МАЛАДЫ АРАТЫ

ЧАСОПІСЬ
СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ
ОРГАН ЦКЛКСМБ

Ф. СКАРЫНА
ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ ВУЧОНЫ І ДРУКАР

№ 14.

1925 г.

*Вобраз першадрукара выкарыстоўваўся ў афармленні беларускіх часопісаў пачынаючы з 1920-х гадоў*





вых прыёмаў і сродкаў у яго творах нярэдка проста ўражвае. Пры гэтым зайздросная тэхніка красамоўства заўсёды ўпарадкавана і адухоўлена яго тонкім мастацкім густам і пачуццём меры. У прыватнасці "Прадмова" Францыска Скарыны да ўсёй Бібліі, змешчаная ім у Кнізе Быцця (Прага, 1519) — гэта нішто іншае як гімн Кнізе Кніг (Бібліі), створаны ўзнёсла і таленавіта, вельмі ўмела і па-мастацку дасканала.

Пры ўсёй гэтай разнастайнасці жанравых формаў у творах Скарыны захоўваецца адзінства стылю і цэласнасць агульнай ідэі кожнага твора. Прадмовы Скарыны не толькі дапаўняюць асноўны тэкст біблейскіх кніг, але і выступаюць у ролі самадастатковых твораў прыгожага пісьменства. Нездарма ўжо ў наш час іх не раз выдавалі ў выглядзе асобных зборнікаў твораў Скарыны і ўключалі ў склад анталогій і хрэстаматый па беларускай літаратуры.

Цудоўныя здольнасці Скарыны звязаны з атрыманнем ім выдатнай школьнай і ўніверсітэцкай адукацыі. Вядома, што падчас вучобы ў Кракаўскім універсітэце Скарына паспяхова засвоіў курс так званых "вольных мастацтваў", у склад якіх уваходзілі граматыка, рыторыка і логіка. Таму веды, атрыманыя намі падчас навучання — гэта гарантыя нашай паспяховай будучыні.



***Скарына неадменна асацыіруецца сёння з беларускай літаратурай***




*В. Шматаў. Францыск Скарына*



Книги

зерцало жену сию преславную пердочнима имеющие в добрыхъ делехъ и всего отчизны не толико жены но и мужи наследовали, и всякого тружания и скарбовъ для посполитого доброго и для отчизны своея не лютовали. Понеже от прироженим звери ходящие в пустыни знають ямы своя. Птици летающие по возъдуху ведають гнезда своя. Рибы плывающие по морю и в реках чують виры своя. Пчелы и тым подобная боронать ульевъ своихъ. Такожъ и люди и где зродилися и ускормлены суть по бозе к тому месту великую ласку имають. Протожъ и сия вдовица Iудифъ для места роженя своего, выдала естъ живот свой на небезпеченство, но Господь Богъ для доброго умыслу ея помогъ ей, яко непобедимого от людей победила. Потреба теже ведати иже сия книга Iудифъ яко книга Даниила пророка и книги Ездры еврейскими словами, но халдейским языкомъ наиперьвей от летописцовъ написана естъ.

Конецъ Предъсловия.

Iюдифь. г.

Починаетсы книга о жене Iюдифь, еже отсече главу Олофернови, воеводе Навходнасора царя асирьского. И избави людей израилевыхъ. А имать главъ 16.

Глава 1.

Воиного царя Арфаксата поразилъ есть Навходносоръ царь асирский. И потом послал послы ко иным народом абы служили ему и не хотеху учинити того.

Арфаксат царь мидийский подбилъ был многим языки под свою власть. И той поставилъ градъ вельми крепкий, и назвалъ и Екбатанисъ. От камения граносвитого и тесаного поделалъ муры града того, и їхже

*Кніга "Юдзіф". Прага. 1519 год*



Сентеврий.

Алуя, хвалите Господа вси ангели его. Стих. Яко той рече и быша, той повеле и создашеся. Евангел от Луки зач 16. Притча. Творяй ангелы своя духи, и слуги своя огнь палящь. Аллилуия.

3 Святого муч Созонта. И предпразнство рожества Богородици. Служби сентеб 5. Апостол к евреем, зач 303. Евангел от Иоан зач 58.

8 Рожество пресвятыя Богородица. На утрени прокимен. Помяну имя твое во всяком роде и роде. Стих. Отрыгне сердце мое слово благо. Евангел от Луки зач 4. На литургии прокимен. Величит душа моя Господа. Стих. Яко призре на смирение рабы своея. Апостол к филип зач 240. Аллуя глас 8. Слыши дщи и виждь. Стих. Лицу твоему поклонятся вси богатии людские. Евангел от Луки зач 54. Притча. Чашу спасения прииму и имя Господне призову. Аллилуия.

9 Святых богоотец Iоакима и Анны. Прок

Сентеврий. 3.

Днесь Бог во святых своих, Бог Израилев. Стих. Во церквах благословите Господа от источник. Апостол к галат зач 210 от полу. Аллуя. Спасение праведным от Господа, и помощь их от Бога спасающего. Евангел от Луки зач 36. Притча. Радуйтеся праведни.

13 Обновление храма Господа Бога нашего. И святого священно мученика Корнилия. Прок. Дому твоему подобает святыня Господи, в долготу дней. Стих. Господь воцарися и в лепоту ся облече. Апостол к евреем зач 307. Аллуя. Основание его на горах святых, любит Господь врата Сиона. Стих. Преславная глаголана суть о тобе граде Божий. Евангел от Матф зач 67. Притча. Хвалите Господа с небес. Другий. Господи возлюбих благолепие дому твоего, и место селения славы твоея. Аллилуия.

В субботу пред воздвижением честнаго креста Господня. Апостол к коринф зач 126.

*Кніга "Апостал". Вільня. 1525 год*



Францыска Скарыну можна абгрунтавана лічыць першым беларускім паэтам, аўтарам першых вершаў на беларускай (старабеларускай) мове. Яго папярэднікі часоў Сярэдневякоўя, нават такія вядомыя і таленавітыя творцы як Кірыла Тураўскі, не пісалі па-беларуску і не стваралі вершаваныя творы ў сучасным разуменні гэтага паняцця. Некаторыя сучаснікі Скарыны і прадстаўнікі эпохі Адраджэння, як Мікола Гусоўскі, таксама звярнуліся да паэтычнай творчасці, але пры гэтым перавагу аддавалі класічным мовам (напрыклад, лацінскай).



*Сярэдневяковы паэт на выяве ў рукапісным ініцыяле*

Скарына ж адным з першых звярнуўся да вершатворчасці па-беларуску. Больш таго, дзякуючы друкаванаму слову гэтыя творы трапілі на старонкі тыражных выданняў і захаваліся для нашчадкаў — прайшлі праз стагоддзі войнаў і разрухі і сёння сведчаць пра багацце і веліч нашай культуры.

Прыблізна ў часы Францыска Скарыны адбывалася пашырэнне ў Еўропе і на беларускіх землях у прыватнасці сілабічнага вершаскладання. Сутнасць сілабікі ў чаргаванні аднолькавай колькасці складоў у вершаваных радках. Асноўнымі рытмастваральнымі кампанентамі сілабічнага верша таксама, апрача аднолькавай колькасці складоў у радках, з'яўляюцца міжрадковыя паўзы, падобныя заключныя склады радкоў, паўтаральная сугучнасць асобных словаў ці іх частак і інш.

Падобная форма вершаў атрымала асаблівае пашырэнне ў мовах, дзе словы маюць пастаяннае месца націску на тым ці іншым складзе. Напрыклад, у французскай і армянскай мовах — на апошнім складзе, у польскай — на перадапошнім, чэшскай — на першым і гэтак далей.

У 15 стагоддзі сілабіка прыйшла ў польскую літаратуру, а ў самым пачатку 16 стагоддзя яна з'явілася і ў беларускім прыгожым пісьменстве, а ў хуткім часе стала асноўнай сістэмай



ЦАРЬСТВЪ :~ Второе :~

Царь Двдъ играеть въ гусле неса Кивотъ гдень:
царицаже Михоль видя ипогорде ибе неплодна :





Вторый книги царьствъ починають ся. Зуполне выложены нарускии язык. Доктором Франциском Скориныным сыномъ сполоцька :~

*Вобраз біблейскага цара-паэта Давіда на гравюры Скарыны*






*Паэтычная вечарына ў Вільні,
прысвечаная Францыску Скарыне. 2015 год*

вершаскладання пісьмовай паэзіі Беларусі. У далейшым падобная сістэма вершаскладання дасягнула свайго найвышэйшага развіцця ў творчасці Сімяона Полацкага, які запачаткаваў расійскае вершаскладанне.

Можна казаць, што менавіта дзякуючы Францыску Скарыне сілабічная паэзія прыйшла ў Беларусь. Калі прааналізаваць яго творы, то не цяжка ў асобных з іх выявіць рысы першых вершаў. Асобныя радкі гэтых вершаў моцна нагадваюць адзін аднаго па сваёй пабудове і структуры, а пры гэтым яшчэ і назіраецца выразнае імкненне да роўнаскладовасці.

Падобныя прыклады пачатковага вершаскладання мы знаходзім як у пражскіх, так і ў віленскіх выданнях Скарыны. Больш таго, беларускі асветнік рызыкуе прадставіць у вершаванай форме не толькі ўласныя словы, але і словы Святога Пісання і нават Божыя запаветы. У прыватнасці, у сваёй прадмове да Кнігі Выхад (Прага, 1519) Скарына падае ў кароткай вершаванай форме знакамітыя Дзесяць Божых Запаведзяў, ці Дэкалог.

Вершаваныя творы Скарыны не толькі эмацыянальна ўзмацняюць асобныя думкі аўтара, але часам становяцца квінтэсенцыяй ці высновай усяго твору асветніка. Напрыклад, менавіта такім вершаваным заканчэннем (“Не копай под другом своим ямы”) завяршаецца прадмова да Кнігі Эсфір (Прага, 1519).

Важна, што пасля вяртання на радзіму, у сталіцу ВКЛ Вільню, Скарына прадоўжыў свае паэтычныя заняткі і ўжо ў першым сваім віленскім выданні — “Малой падарожнай кніжцы” — ён змясціў некалькі сваіх вершаваных прац, у тым ліку акраверш “Делал доктор Скоринич” ў складзе “Акафіста найсалодкаму імені Ісусаву”.

Такім чынам, паэтычная спадчына Францыска Скарыны ўяўляе сабою першаўзоры беларускай паэзіі, а самога Скарыну можна лічыць першым уласна беларускім паэтам.

**Вось як выглядаў першы верш аўтарства Францыска Скарыны, змешчаны ў Кнізе Іова (Прага, 1517):**

**Богу в Троици единому**
**ко чти и ко славе,**
**Матери Его Пречистой**
**Марии к похвале.**
**Всем небесным силам**
**и святым Его к веселію,**
**Людем посполитым**
**к доброму научению.**





Вялікіх намаганняў ад Скарыны патрабавала падрыхтоўка перакладу і тлумачэнняў да кніг Бібліі. Гэта была, з аднаго боку, вельмі адказная, а з іншага, новая і няпростая праца. Узяць на сябе адказнасць за аналіз, пераклад і каментаванне Святога Пісання мог далёка не кожны нават самы адукаваны чалавек. На радзіме Скарыны на такі крок не рашаліся нават прадстаўнікі царкоўнай іерархіі. Звычайна, у выглядзе рукапісаў пашыраліся толькі кнігі, прызначаныя для набажэнства (літургічныя кнігі), у той




*Тытульны ліст кнігі "Быццё". Прага. 1519 год*

Премъдрость Божия :-



Премъдрости божией книга починаетсѧ • Зъполне• выложена на ръскый изыкъ • доктором франьцискомъ скорининым сыномъ • изъславнягo града полоцька :-

*Гравюра Скарыны — Божая Прамудрасць*

час як кнігі Бібліі (і асабліва Старога Запавету) амаль ніколі нават не перапісваліся ў рукапісным выглядзе, бо гэта праца патрабавала вельмі добрай багаслоўскай падрыхтоўкі.

Запланаваная беларускім асветнікам работа не магла не ўражваць сучаснікаў. Ён меў намер не толькі самастойна перакласці вельмі складаныя для разумення тэксты Кнігі Кніг на родную мову і тым самым зрабіць іх даступнымі для разумення шырокім колам насельніцтва, але такса-


Исходъ
Дщера фараонова знашла отроча Моисея у воде

Книги вторыи Моисеовы, зовемые Исходъ. Зуполне выложены на руский языкъ, доктором Франциском Скориною с Полоцька. Богу в Троици единому и пречистой матери его к чти и людем посполитым к науце

*Тытульны ліст кнігі "Выхад". Прага. 1519 год*

ма патлумачыць значэнне кожнай з кніг, пракаментаваць складаныя для разумення эпізоды, ідэі і паняцці. Усё гэта было нечуванай навіной.

Бясспрэчна, прапануючы ўвазе чытача сваё тлумачэнне Святога Пісання, Францыск Скарына працягвае традыцыю сярэдневяковых і рэнесансных багасловаў, а таму прапануе тыя ці іншыя ідэі і погляды, абапіраючыся на аўтарытэт тэкстаў самой Бібліі і выказванні найбольш вядомых і аўтарытэтных аўтараў мінулага — Айцоў Царквы. Праведзены даследчыкамі аналіз тэкстаў Скарыны дазваляе вылучыць шырокае кола аўтараў, на якіх спасылаецца ці творы якіх цытуе Францыск Скарына. Сярод іх Васіль Вялікі, Рыгор Дваяслоў, Еранім Стрыдонскі, Феадосій, Феадарыт Кіпрскі, Ераней Ліёнскі, Ісак і Яфрэм Сірыны, Арыген, Іаан Дамаскін і іншыя.

Выданне тэксту Бібліі з аўтарскімі каментарыямі свецкага чалавека, які не мае духоўнага сану, было абсалютна нечаканым як для праваслаўнай, так і для каталіцкай цэркваў. Падобныя погляды (як раз у часы Скарыны) пачалі выказваць рэфарматары, альбо пратэстанты. У сувязі з гэтым некаторыя айчынныя і замежныя даследчыкі выказвалі меркаванне пра магчымую сувязь Францыска Скарыны з пратэстанцкім рухам у Еўропе.

Пытанне аб рэлігійным вызначэнні Скарыны наогул з'яўляецца адным з найбольш складаных у скарыназнаўстве. Дакладных і прамых пісьмовых доказаў яго прыналежнасці да той ці іншай канфесіі не захавалася, таму часта выкарыстоўваюцца ўскосныя крыніцы. У любым выпадку, сама неадназначнасць гэтага пытання ўздымае Скарыну на па-за канфесійную вышыню, ставіць яго над спрэчкамі паміж прадстаўнікамі розных цэркваў, якія раздзіралі хрысціянскае адзінства ва ўсе часы. У творах Скарыны няма ні крытыкі ў адрас той ці іншай царквы, як няма і выхвалення заслуг іх кіраўнікоў — рымскіх пап ці ўсходніх патрыярхаў. Ён застаецца па-за полем спрэчак з пратэстантамі, якія займалі розум многіх багасловаў таго часу.



*Скульптура на ўваходзе ў Старое места Пражскае нібы благаслаўляе ўсіх, хто прыбываў сюды, як Скарына*



***Гравюра "Царыца Саўская гутарыць з царом Саламонам".***

У сувязі з гэтым існуе думка, што Францыск Скарына мог падтрымліваць ідэі царкоўнай уніі — уз'яднання розных цэркваў у адну, як было ў часы Хрыста. Гэта думка таксама не пазбаўлена падстаў. Яшчэ ў 15 стагоддзі гэта ідэя была вельмі папулярнай у беларускім грамадстве і, напрыклад, большасць праваслаўных мітрапалітаў таго часу яе актыўна падтрымлівала, а ў 16 стагоддзі такая ўнія нават была заключана і стала самай вядомай спробай саюза заходняй і ўсходняй цэркваў.

Што характэрна, таленавіты палачанін здолеў нават застацца памяркоўным і ўзважаным у стаўленні да яўрэяў, якіх нярэдка жорстка крытыкавалі хрысціянскія багасловы. У большасці аўтарскіх прадмоў да біблейскіх кніг Скарына ўпэўнена звяртаецца да старажытнаяўрэйскіх тэкстаў.

Сінтэз розных рэлігійных традыцый назіраецца і ў тым, якімі крыніцамі карыстаўся Францыск Скарына для перакладу кніг Бібліі. Нам сёння дакладна вядома, што ён карыстаўся і каталіцкімі рэдакцыямі Святога Пісання (Вельгата) ды каментарыямі каталіцкіх багасловаў, і праваслаўнымі рукапіснымі спісамі, і гусіцкай



(пратэстанцкай) Чэшскай Бібліяй, і старажытнымі яўрэйскімі арыгінальнымі тэкстамі, і творамі антычных мысліцеляў, зусім не звязаных з традыцыйным хрысціянствам і іудаізмам.

У гэтым праяўляецца талерантнасць і розум Скарыны. У гэтым можна бачыць асаблівасці нацыянальнага характару беларусаў з іх цярпімасцю і павагай да людзей іншай веры, нацыянальнасці, поглядаў ці звычаяў. Так і Скарына. Ён нібы не заўважае спрэчак між цэрквамі і іх іерархамі, не крытыкуе іх і не хваліць. Ён звяртаецца да ўсіх і да кожнага, каму гэта цікава, імкнецца данесці Божае Слова да ўсіх, да “людзей паспалітых”.




*Гравюра "Стварэнне сусвету" з кнігі "Быццё". 1519 год*








*Расфарбаваная гравюра з кнігі "Прамудрасць Божая" . 1518 год*



Самае каштоўнае з усяго, што пакінуў нашчадкам Францыск Скарына, — гэта мудрасць яго пасланняў і казанняў, якая засталася на старонках кожнай выдадзенай ім кнігі ў выглядзе аўтарскіх прадмоў. Дзейнасць Скарыны ў Празе і Вільні мела па сутнасці хрысціянскі асветніцкі характар. Яго кнігі Святога Пісання знаёмілі адукаваных жыхароў Беларусі і іншы "паспаліты люд" з гісторыяй хрысціянскай веры, яе сутнасцю і канонамі.

Аднак друкаванае слова Скарыны было прызначана не толькі для інфармавання насельніцтва ці ўжытковага выкарыстання ў хрысціянскіх храмах, але найперш для фарміравання сапраўднага грамадзяніна сваёй дзяржавы, адукаванага і добра выхаванага. У творах асветніка можна бачыць, як услаўленне боскіх і царкоўных запаветаў спалучалася з разуменнем важнасці свецкіх навук і адукацыі, веданнем айчыннай і сусветнай гісторыі. У спадчыне Скарыны спалучаюцца рэлігійны і свецкі кірункі выхавання чалавека. Яго кнігі знаёмілі беларусаў з духоўнымі дасягненнямі хрысціянскага свету, іншымі народамі і дзяржавамі, іх сужыццём і лёсамі.

Ужо першыя словы самай першай кнігі Скарыны, якой быў Псалтыр, тлумачаць яго асветніцкія мэты: "Усё Пісанне боганатхнёнае, карыснае для навучання і для выкрыцця, для выпраўлення і для настаўлення ў праведнасці, каб быў дасканалы Божы чалавек і да ўсякае добрае справы падрыхтаваны". Гэтыя словы апостала Паўла як найлепш ілюструюць Скарынава імкненне — "каб быў дасканалы Божы чалавек і да ўсякае добрае справы падрыхтаваны".

Францыск Скарына бачыў невычарпальныя магчымасці духоўнай асветы людзей у друкаванай кнізе. Праз кнігу ён спадзяваўся данесці да ўсіх сваіх суайчыннікаў багацце чалавечай думкі і найвышэйшыя маральныя прынцыпы, выпрацаваныя чалавечай цывілізацыяй. І Скарына не памыліўся: на некалькі стагоддзяў



*Язэп Драздовіч. Францыск Скарына. Са свету з навукай. 1944 год*




*А. Марачкін. Пачатак.*
*Францыск Скарына.1978 год*

наперад друкаваная кніга стала (у тым ліку, дзякуючы яму) важнейшым сродкам выхавання і асветы ў беларускім грамадстве. Менавіта праз кнігу ў далейшым распаўсюджваліся ўсе важнейшыя ідэі і погляды, у кнізе знайшлі сваё адлюстраванне ўсе навуковыя адкрыцці, менавіта на выкладзеных у кнізе звестках выхоўваліся і працягваюць выхоўвацца ўсё новыя пакаленні беларусаў.

Як вялікі асветнік свайго часу ён заклікаў да гуманізму, да павышанай цікавасці да чалавечай асобы, скіроўваў сваіх суайчыннікаў да асветы. Менавіта ў гэтым была яго місія як прапаведніка Рэнесансу на беларускай зямлі. Але ў гэтым і прыцягальнасць Скарыны для нас, людзей 21 стагоддзя: яго спадчына, яго духоўныя пасланні застаюцца нязменна актуальнымі дагэтуль.



*Арлен Каршкурэвіч. Скарына ў Полацку. 1990 год*



Францыск Скарына не пісаў адмысловых філасофскіх трактатаў, не чытаў студэнтам добра структураваныя лекцыі па філасофіі ды і не называў сябе філосафам. Але нездарма многія сучасныя даследчыкі ўпэўнена называюць Скарыну вялікім мысліцелем і філосафам.

Філасофія Скарыны не мела выяўлення ў якасці асобнай тэарэтычнай дактрыны, але спалучалася з асветніцкай і багаслоўскай працай. Менавіта таму ўсё багацце філасофскіх ідэй чалавецтва, уся мудрасць ранейшых пакаленняў, на думку Скарыны, канцэнтраваліся ў Кнізе Кніг — Бібліі. У сваёй “Прадмове да ўсёй Бібліі” Скарына піша: “У гэтай кнізе пачатак і канец усёй прыроднай мудрасці; Бог Усемагутны пазнаецца. У гэтай кнізе запісаныя ўсе законы і правы, якімі людзі павінны кіравацца на зямлі. У гэтай кнізе знойдзеце любыя лекі для душы і цела. Тут пабожнае навучанне філасофіі, што трэба любіць Бога дзеля саміх сябе і бліжняга дзеля Бога. Тут парадак усялякага людскога і любога гарадскога сходу, калі праз веру, спалучэнне любові і згоды памнажаецца грамадскае дабро. Тут дастатковы выклад сямі вольных навук”.

Але для нас, калі мы разглядаем філасофскую спадчыну Скарыны, вялікае значэнне мае не толькі перакладзенае ім Святое Пісанне, але і яго аўтарскія тэксты. Шматлікія прадмовы і пасляслоўі




*Авероэс (Ібн Рушд) — знакаміты арабскі філосаф 12 стагоддзя, чые погляды паўплывалі на ідэі Скарыны. Гравюра 15 стагоддзя*

беларускага мысліцеля маюць відавочны асветніцкі, пазнавальны, навучальны, філасофскі і маральна-выхаваўчы кантэкст. Апрача непасрэдных звестак пра тых ці іншых біблейскіх персанажаў, пра асноўныя падзеі з хрысціянскага мінулага ў іх можна знайсці настаўленні асветніка, парады і падказкі адносна таго, да якога ідэалу сапраўднага чалавека неабходна рухацца.

У творчай спадчыне Францыска Скарыны мы знаходзім глыбока жыццёвыя погляды на чалавечае існаванне, на жыццё і смерць, каханне і ня-



ПИСАНЫИ РЕЧИ :~



ВСЕИ МАЛОИ ПОДОРОЖНОИ
книжце пораду кратце положены суть :~
Ная ипервеи Псалтырь зуполняя • нясти
хи статнями разделеня, внейже знайде
ши стиховъ, или припеловъ • две тысещи
ишесть соть • З якаждою кафисмою зя
стяенця болшая • я покаждои славе, зя
стяенця меншая • для лепшего разделе
ния чтущимъ положены суть :~
Зя Псалтырею песней десеть, светхяго
и сновяго закону божия извряные :~
Потомъ чясословець, имея нощную, и
дневную службу Напреды полунощниця
глемая повся дни, кроме собот, инедель
Другяя полунощниця пеяема всуботы
Третяя полунощниця, повся воскресе
ния • скянономъ тройчнымъ глясе и, тво
рен на преподобняго отця Иоанна дамяски

ВСЕИ КНИЖЦЕ :~
ня • исмолитвою светеи и живоначялнеи
тройци • писяно няконци шестодейця :~
Зятымъ утреня обычняя повся дни :~
Тропяри повсядни писяны нязаутрени :~
Светилны повсядни писяны нязаутрени
Кондяки повсядни писяны ня я часе :~
Чясы все зуполня, и змеждочясиемъ :~
Обедниця еже е глаголемая нячясех :~
Вечерня обычняя, певяемая повся дни
Стихеры ня гдни возвях покаялные глас ѕ
И нястиховни писяны суть нявечерни :~
Пявечерниця великая певяемая впосте :
Пявечерниця мялая, скянономъ бци :~
Якафистъ живоносному гробу гдьню, и
воскресению глаголемыи повся недели :~
Кянонъ гробу гдьню глясе я певяемы со
якафистомъ • и внеделю нязаутрени :~
Молитвя къгду богу, глемая внеделю :~
Якафистъ светому ярхянгелу михяилу,
и всемъ небесным чиномъ, впонеделок :~

*Пасляслоўе да "Малой падарожнай кніжкі". Вільня. Каля 1522 года*

навісць… Гэты спіс можна працягваць амаль бясконца, бо Скарына сапраўды здолеў прапанаваць свайму чытачу аўтарскае бачанне многіх з найбольш складаных “вечных пытанняў” чалавечага існавання.

У філасофска-эстэтычнай думцы Скарыны разуменне дабра і прыгажосці было цэласным і арыентаваным на захаванне грамадскай справядлівасці і высокую маральнасць. Менавіта таму ў яго творчасці мы бачым спалучэнне з аднаго боку ўслаўлення хрысціянскіх ісцін і каштоўнасцей (дабра), а з другога — арыентацыю на гуманістычныя ідэалы рэнесанснай культуры і імкненне да гармоніі (прыгажосці).

Хрысціянскае разуменне дабра ў творах Скарыны грунтуецца на асноўных законах Бібліі, якую ён перакладаў, тлумачыў і выдаваў, а таксама на працах шматлікіх багасловаў і філосафаў, якія звярталіся да Святога Пісання.

Але разам з арыентацыяй на філасофскую думку хрысціянства Скарына ўсё больш звяртаецца таксама да этычных і эстэтычных прынцыпаў гуманізму, якія найбольш ярка пачалі праяўляцца як раз у эпоху Адраджэння. Тым звяном, якое злучала дабро і прыгажосць, для Скарыны быў ідэал справядлівага і дасканалага чалавека. Што важна, вялікі мысліцель імкнуўся не толькі збалансаваць хрысціянскія погляды з адраджэнскім разуменнем чалавека, але і перанесці гэта на рэальнае, зямное быццё чалавека.







Францыска Скарыну можна ўпэўнена лічыць адным з першых у Беларусі тэарэтыкаў праравога грамадства.

Уласнае бачанне прававой сістэмы грамадства найбольш грунтоўна ён выклаў у прадмове ("Сказанні...") да кнігі Другі Закон (Прага, 1519). У дадзеным тэксце Францыск Скарына прадстаўляе канцэпцыю двух законаў — натуральнага (напісанага Богам у сэрцах людзей) і пісанага (зафіксаванага ў Святым Пісанні ці законах людзей).

Першаснае значэнне Скарына, як і многія яго папярэднікі, аддаваў натуральнаму праву ("прироженому закону"). Многія сярэдневяковыя вучоныя і багасловы (як Фама Аквінскі) выводзілі асновы натуральнага права з вечнага закону божай мудрасці — універсальнага закону сусвету. Сам жа Скарына пісаў пра яго: "Натуральны закон трымаецца вось на чым: рабіць іншым тое, чаго сам ад іх хочаш, і не рабіць іншым таго, чаго сам ад іх мець не хочаш... Гэты натуральны закон запісаны ў сэрцы кожнага асобнага чалавека".




*Адвакат, пракурор і натарыус. Гравюра 17 стагоддзя*



Моисеи навчає людеи Израилевых втораго закону :-



Книги пятыи Моисеовы зовемыи
ѿ евреи гельгадворимъ, погрече
скии девтерономосъ, полатине
секунда лексъ, а поруски вто
рыи законъ . Зуполне выложены докто
ромъ францискомъ скориною сполоцька :-

*Гравюра Скарыны з кнігі "Другі Закон". 1519 год*



***Так выглядаў юрыст-натарыус на карціне 16 стагоддзя фламандскага жывапісца Квенціна Масэйса***

"Пісанае права", паводле Скарыны, грунтуецца на натуральным праве, выходзіць з яго. У Бібліі пісанае права найперш зафіксавана ў выглядзе так званага Дэкалога — дзесяці Божых Запаветаў, якія былі запісаны на скрыжалях Майсея. Наступным быў закон Святога Евангелля, дадзены Ісусам Хрыстом і заснаваны на прынцыпах любові. У наступным гэтыя законы былі развіты святымі айцамі як законы духоўныя. І, урэшце, апошнімі паўсталі законы свецкія, якія павінны зыходзіць з законаў духоўных і ім падпарадкоўвацца.

Пры гэтым Скарына адзначае неабходнасць арыентаваць прававую сістэму кожнай краіны на ўласныя рэаліі, на асаблівасці свайго народа: "Земскія правы, ухваленыя кожным народам разам з іх старэйшымі такімі, якімі падаюцца ім прымальнымі. І з гэтай прычыны людзі не імкнуцца да аднастайнасці, бо тут — гэтай, там — той, дзесьці іншай мовай карыстаюцца. Толькі ў тым імкнуцца да згоды, каб правы іх, або закон, былі паважаныя, справядлівыя, моцныя, неабходныя, карысныя, адпаведныя натуры, звычаям зямлі, часу і месцу, зразумелыя, без выключэнняў, не для карысці аднаго чалавека, а для ўсеагульнага дабра напісаныя".

Звяртае на сябе ўвагу, што беларускі асветнік вылучае розныя віды законаў, ці правоў: усеагульныя, язычніцкія, царскія, рыцарскія (ваенныя), гарадскія, марскія, купецкія, а асобна Закон Божы. Падобныя выказванні ў чарговы раз падкрэсліваюць імкненне



*Статут Вялікага Княства Літоўскага 1529 года*







*Тытульны ліст Статута Вялікага Княства Літоўскага 1529 года*



С. Герус. Францыск Скарына. 1990 год



***Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года***

Францыска Скарыны да сістэматызацыі і класіфікацыі матэрыялу, сведчыць пра яго аналітычныя і дыдактычныя здольнасці. А з іншага боку, яны сведчаць пра аўтара як пра зацікаўленага і дасведчанага правазнаўца, чые погляды адлюстроўвалі перадавыя дасягненні навукі пра права.

Стройная ідэя прававой сістэмы была арыентавана на ідэал справядлівага чалавека і дасканалага грамадства. Гэты ідэал можа быць дасягальным толькі шляхам захавання маральных прынцыпаў хрысціянскага свету пры ўмацаванні натуральнага права. Хрысціянскіх законаў дабра і справядлівасці было б дастаткова, калі б усе людзі кіраваліся імі ва ўсіх сваіх учынках. Аднак, і Скарына гэта разумеў, такое спадзяванне з'яўляецца ідэалістычным і рэальнае жыццё ведае шмат прыкладаў, калі людзі кіраваліся зусім не маральнымі прынцыпамі. Таму, для рэгулявання нашага штодзённага жыцця неабходныя законы, якія забяспечваюць парадак і бяспеку.

Захаванню вяршэнства права ў грамадстве, на думку Скарыны, спрыяе наяўнасць моцнай судовай ўлады, суддзяў, якія “як роўныя і таварышы, даючы ім параду і чынячы між імі справядлівасць”. Для падмацавання сваіх слоў Скарына-правазнавец спасылаецца на словы Майсея — першага з вялікіх пракрокаў: “Пастаўце сабе суддзяў і наглядчыкаў, ...каб судзілі народ судом справядлівым; і хай не схіляюцца ні на чый бок, і не зважаюць на асобы, і не прымаюць дарункаў, паколькі дарункі слепяць вочы мудрых і змяняюць словы справядлівых. Чыніце па праўдзе...”



Самай важнай справай жыцця Францыска Скарыны было, безумоўна, выданне кніг Бібліі для сваіх суайчыннікаў.

Асветнік з Полацка не пайшоў шляхам перапісвання кніг Бібліі ў адзінкавых асобніках для царкоўнага ўжытку, як гэта бывала раней. Ён абраў іншы шлях — дзякуючы перакладу Святога Пісання на родную мову і тыражавання кніг друкарскім спосабам ён здолеў данесці Слова Божае і мудрасць многіх пакаленняў чалавецтва да самых шырокіх колаў насельніцтва — шляхты і мяшчан, духавенства і свецкіх асоб, людзей розных паводле свайго этнічнага і сацыяльнага паходжання, дастатку, месца жыхарства, прафесіі і гэтак далей.

Для здзяйснення сваіх планаў беларускі вучоны абраў Прагу, якая на той час славілася высокім узроўнем развіцця культуры і дзе ўжо існавалі ўласныя традыцыі кнігадрукавання.

Відавочна, што Францыск Скарына меў намер выдаць усе кнігі Бібліі. За адносна непрацяглы час — з 1517 да 1519 года — ён паспеў падрыхтаваць і выдаць друкам больш за палову кніг Старога Запавету — першай, больш старажытнай часткі Бібліі, створанай яшчэ да ўзнікнення хрысціянства.



*Язэп Драздовіч. Францыск Скарына ў друкарні. 1940—1943 гады*





*Псалтыр – першае выданне Францыска Скарыны. Прага. 1517 год*

На некаторых кнігах ёсць дакладная дата іх выдання (ці, хутчэй за ўсё, дата падпісання кнігі ў друк). Першай такой датаванай кнігай з'яўляецца Псалтыр, які выйшаў 6 жніўня 1517 года. Менавіта гэта выданне і стала першай беларускай кнігай.

У далейшым — ажно да канца 1519 ці пачатку 1520 года ў невядомай сёння пражскай друкарні Францыск Скарына выдаў яшчэ не менш чым 22 кнігі. Магчыма, выданняў было больш, але не ўсе з іх захаваліся да нашага часу. Ёсць меркаванне, што беларускі асветнік нават мог выдаць у Празе ўсе кнігі Старога Запавету. Справа ў тым, што некаторыя яго кнігі захаваліся ў адзінкавых экзэмплярах, таму можна думаць, што іншым магло пашчасціць яшчэ менш. Ёсць таксама рукапісныя копіі кніг, якія нібыта былі выдадзены Скарынам, але не вядомыя нам ні ў адным друкаваным экзэмпляры.

Як бы тое ні было, Скарына выдаў у Празе не менш чым 23 кнігі. Гэта было значна больш, чым было выпушчана ўсімі іншымі выдаўцамі кірылічных кніг таго часу.

Кнігі Скарыны выходзілі адна за адною. Асноўны біблейскі тэкст у гэтых кнігах быў надрукаваны на царкоўнаславянскай мове ў беларускай рэдакцыі. Але ж да кожнай далучаліся аўтарскія прадмовы і пасляслоўі на старабеларускай мове.





Книги ѣ моисеѡвы

И кадило разноличное вонѧ доброе • Камени ѡнихи нозы, и иное камение драгое ко ѡкрасе ризы жреческое, и полицѣ еже имать быти наперсех жерцевых • И сделають ми святыню и буду пребывати посреди их • По всему ѡбразу храма еже покажу тобе, и всех сосудов его • и тако ж будете делати :~



Взоръ кивота или скрини завета гд҇ьны :~

Кніга "Выхад". Прага.1519 год

Скриню с древа Сеѳимова сложиши, Долгота ей да 10
будеть два локтя и полъ, Широта ей локоть и полъ
Высота потомуже локоть и полъ. И златомъ найчи 11
стейшимъ обкуеши ю внутрь и зовнутрь. И вдела
ешъ наверху ея венець златый около всее. И четы 12
ри круги златыхъ еже укуешъ на четырехъ углехъ
Скрини. Два круги да будуть на боку единомъ, а
два на боку другомъ. Вделаешъ теже жердки з дре 13
ва Сеѳимъ, И обкуеши е златомъ и вложишъ до кру 14
говъ еже суть на боцехъ скрини, дабы могли носи 15
ти ими, Они же всегда да будуть въ крузехъ и ниже
когда выймутся с нихъ. И положиши во скрини 16
Заветъ мой еже дамъ тобе. Вчинишъ и очище 17
ние надъ скринею, тоесть дощку от злата пре
чиста. Два локти и полъ будеть должина ей, ло
коть же и полъ ширина. Два теже Херувимы и 18
з злата кована вделаешъ со обудву странъ молитов
нице. Херувимъ единъ да будеть на стране единой 19
а другий на стране другой. Оба два крае очищения
дакрыють. Розтягнена имеюще крила, и прикрываю 20
ще молитовницу. И да купно глядять на ся обра
щена имеюще лица во все очищения, еюже иматъ




***Малая падарожная кніжка. Вільня. Каля 1522 года***

Усе пражскія выданні Скарыны вылучаліся выразным рэнесансавым стылем і прыгожым мастацкім афармленнем. У гэтых кнігах было змешчана больш за 40 сюжэтных гравюр, шматлікія ініцыялы, застаўкі і канцоўкі.

Пры гэтым Скарына арыентаваўся на выпуск не вельмі дарагога выдання, якое маглі б сабе дазволіць многія грамадзяне на яго радзіме, а не толькі невялікае кола заможных магнатаў і манастыроў. Магчыма, менавіта таму ён не публікаваў Біблію цалкам — у адным аб'ёмным томе, які аднак набыць змаглі б далёка не ўсе ахвотныя. Ён выпускаў кожную біблейскую кнігу асобным выпускам — невялікім, але даступным. Гэтымі ж прычынамі можа быць патлумачаны больш зручны для хатняга выкарыстання невялікі фармат выданняў Скарыны.

Пасля пераезду на радзіму — у Вялікае Княства Літоўскае —Францыск Скарына вырашыў працягнуць сваю выдавецкую дзейнасць. Тут каля 1522 года ён выдаў “Малую падарожную кніжку”, а ў 1525 годзе — “Апостал”.

Ёсць усе падставы меркаваць, што і пасля гэтага Францыск Скарына меў намер працягваць сваю выдавецкую дзейнасць, аднак розныя неспрыяльныя ўмовы не дазволілі гэтаму намеру ажыццявіцца.

Напрыклад, вяртаючыся ў 1530 годзе з Кёнігсберга ў Вільню Францыск Скарына вывез адтуль двух майстроў, адзін з якіх быў друкаром. Верагодна, ён спадзяваўся на працяг сваёй выдавецкай дзейнасці ў Вільні. Да таго ж ёсць сведчанні, што ў Кёнігсберг Скарына прыехаў па запрашэнні мясцовага герцага Альбрэхта менавіта для таго, каб распачаць там выдавецкую дзейнасць.



Першадрукар — гэта тое слова, якое сёння найбольш часта можна сустрэць побач з іменем Францыска Скарыны.

Аднак, найбольш верагодна, што ўласна друкарскай дзейнасцю беларускі асветнік пачаў займацца толькі на радзіме — у Вялікім Княстве Літоўскім. Каб называць Скарыну друкаром у дачыненні да яго дзейнасці ў Празе нам пакуль недастаткова доказаў.

Найбольш верагодна, што ў Празе Францыск Скарына скарыстаўся паслугамі адной з наяўных там друкарняў. Кнігадрукаванне ў сталіцы Чэхіі на той час ужо дасягнула даволі высокага ўзроўню і налічвала некалькі дзесяцігоддзяў гісторыі. Шматлікія чэшскія друкары з ахвотаю бралі заказы ад разнастайных выдаўцоў і дасягнулі ў гэтым высокага майстэрства.

Не маючы адмысловага вопыту, а Скарына ўсё ж вучыўся зусім іншаму, а таксама вялікага капіталу і не будучы нават грамадзянінам Чэхіі, было б цяжка заснаваць тут сваю друкарню. Ды і сам Скарына быў, відаць, моцна заняты перакладчыцкай, літаратурна-рэдакцыйнай і выдавецкай падрыхтоўкай кніг Бібліі. Нарэшце немалаважна і тое, што Скарына першым з усходніх славян займеў намер выпускаць друкаваную кнігу і ён не мог быць упэўненым, ці гэты бізнес можа быць удалым. Таму трэба думаць, што свае кнігі ён пачаў



*Друкаванне кнігі паводле гравюры І. Амана 1568 года*

друкаваць у адной з мясцовых друкарняў Прагі.

Апошнюю думку пацвярджаюць наступныя назіранні чэшскіх даследчыкаў: у час выдавецкай працы ў Празе Францыска Скарына некалькі скарацілася кнігавыдавецкая актыўнасць найбольш вядомых пражскіх друкароў: Яна Севярына, Мікалая Конача, Яна Шмяргоўскага. Магчыма, гэта было звязана з тым, што адна з гэтых друкарняў выконвала вялікі заказ прыезджага выдаўца.

Пра тое, што Францыск Скарына кіраваў выдавецкім працэсам, але не



прымаў непасрэднага ўдзелу ў друкарскай дзейнасці, сведчаць яго ўласныя словы ў прадмовах і пасляслоўях да многіх выданняў. Напрыклад, у першай сваёй кнізе Скарына пісаў: “Я, Францішак, Скарынаў сын, з Полацка, у лекарскіх навуках доктар, бачачы такую карысць ад такой малой кнігі, загадаў друкаваць Псалтыр”. Такім чынам, сам Скарына ўпэўнена акрэсліў сваю ролю ў выдавецкім працэсе. Даволі часта даводзіцца сустракаць падобныя словы ў яго пазнейшых пражскіх выданнях (“Выкладзена і выдрукавана па даручэнні і стараннямі вучонага мужа”, “На загад, руплівасцю і ў перакладзе вучонага мужа, у лекарскіх навуках доктара Францыска Скарыны са слаўнага горада Полацка” і інш.).

У любым выпадку беларускі выдавец у Празе быў вымушаны даволі глыбока пагрузіцца ў працэс друкавання кнігі, а магчыма, і прыняць непасрэдны ўдзел у друкарскай працы. У прыватнасці, ніколі дагэтуль у Празе кнігі не друкаваліся кірылічным шрыфтам. Гэта патрабавала ад выдаўца пэўных захадаў па распрацоўцы макета нова-

*Друкарня 16 стагоддзя*





*Экспазіцыя Музея беларускага кнігадрукавання ў Полацку*

га шрыфту, які ў далейшым адліваўся ў майстэрні па вырабу шрыфтоў. Магчыма, Скарына прымаў удзел у вырабе матрыц для друкавання ініцыялаў і розных дэкаратыўных заставак. Верагодна, такую працу чэшскія майстры не здолелі б выканаць самі:

ILLVSTRIVM
Virorum Epistolę ab Angelo Politiano partim scriptę, partim collectę, cũ Syluianis Cómẽtariis & Ascẽsianis Scholiis, nõ parũ auctis, & rursum diligenter repositis: cũq; vocularũ minus idonearũ aut minus rite vsurpatarum adnotatione.




*Друкарскі варштат на гравюры 16 стагоддзя*

ініцыялы ствараліся адмыслова для мала вядомага ў Праце кірылічнага алфавіта, а застаўкі былі выкананы з захаваннем стылістыкі праваслаўных рукапісаў.

Гэтыя веды, верагодна, істотна дапамаглі палачаніну, калі ён пераехаў у Вільню і распачаў тут сваю выдавецкую дзейнасць. Але на гэты раз, хутчэй за ўсё, Скарына быў вымушаны стварыць уласную друкарню і заняцца яшчэ і працай па кіраванні друкарскім працэсам. Вядома, што гэтая друкарня знаходзілася ў доме “найстаршага бурмістра” (старшыні гарадскога магістрата) Якуба Бабіча, недалёка ад галоўнай рынкавай плошчы. У надрукаваных тут каля 1522 года “Малой падарожнай кніжцы” і ў 1525 годзе “Апостале” бачныя многія рысы папярэдніх пражскіх выданняў. Верагодна, Скарына перавёз у Вільню разам з асабістымі рэчамі і некаторыя друкарскія матэрыялы.

Францыск Скарына абгрунтавана лічыцца першым беларускім і ўсходнеславянскім друкаром, першым друкаром у Вялікім Княстве Літоўскім і заснавальнікам першай друкарні на тэрыторыі Усходняй Еўропы. Дзякуючы ўдзелу Скарыны беларуская друкаваная кніга ад самага першага выдання вызначалася высокім мастацкім і паліграфічным узроўнем.



У сваёй дзейнасці Францыск Скарына паўстае як энергічны прадпрымальнік, які пастаянна займаўся самаўдасканаленнем, шукаў новыя шляхі і новыя сферы дзейнасці. Ён імкнуўся не толькі даць людзям святло ведаў, але і шукаў магчымасці для матэрыяльнага самазабеспячэння і заробку.

Скарына не лётаў у высокіх аблоках, а грунтоўна стаяў на зямлі. Яго залішне ідэалізаваны вобраз ставарае ў сучаснікаў адчуванне, што наш вялікі продак быў ледзь не міфічнай асобай, якая не жыла і не кахала, не ела і не спала, і, безумоўна, не клапацілася пра матэрыяльнае забеспячэнне сваёй дзейнасці. А гэта ніяк не адпавядае рэчаіснасці.

Францыск Скарына цудоўна разумеў, што без матэрыяльнага забеспячэння яго высакародная асветніцкая праца застанецца абсалютна немагчымай і невыканальнай. Ды і ці мог сын купца і брат купца не быць прагматычным чалавекам. Хіба ён мог толькі спадзявацца на лёс, калі хацеў сапраўдных вынікаў. Не маючы ні высакароднага шляхецкага паходжання, ні багатай бацькоўскай спадчыны (паводле дакументальных крыніц вядома, што ён быў бедным чалавекам) Францыск Скарына мусіў спадзявацца на свой розум і здольнасці.

Таму нават яго выдавецкую дзейнасць трэба разглядаць не толькі ў святле асветніцкай місіі і высакародных помыслаў Скарыны, але і ў зрэзе яго прадпрымальніцкай дзейнасці. Нам вядомы шэраг дакументаў, у якіх ідзе гаворка пра адстойванне ім сваіх правоў на маёмасць, а таксама пра заходы па продажы ўласных кніг.

Пры гэтым Скарына, як сапраўдны прадпрымальнік, гатовы быў рызыкаваць, пачынаць новыя справы, на якія ніхто з яго сучаснікаў раней не адважваўся. І кнігадрукаванне было адным з такіх кірункаў. Ён не сумняваўся ўкладваць сродкі ў сваю адукацыю, бо ведаў, што яна прынясе не толькі добрыя веды, але і магчымасць іх выкарыстаць з выгадай для сябе і грамадства. Ён не баяўся мяняць месца працы і пражывання, спецыфіку сваёй дзейнасці і кожны раз самааддана пагружаўся ў новую справу, дасягаючы мала каму даступных вышыняў.

Некаторыя ініцыятывы Скарыны выглядалі не проста рызыкоўнымі, а нават авантурнымі. Менавіта такімі трэба лічыць вываз двух майстроў — медыка і друкара — з Кёнігсберга, супраць волі мясцовага герцага. Такой жа авантурнай была спроба, пра якую з вялікай доляй верагоднасці кажуць даследчыкі, прывезці свае кнігі на продаж у Маскву. Безумоўна, там нечуваная навіна (друкаваныя кнігі) была ўспрынята адмоўна як неадпаведная старадаўнім традыцыям і таму кнігі былі спалены.

Сёння мы ведаем, што прадпрымальніцкі талент праявіўся ў Скарыны яшчэ ў маленстве і захоўваўся да апошніх дзён. Вядома, што Скарына падтрымліваў дзелавыя і фінансавыя зносіны з жыхарамі Вялікага Княства Літоўскага амаль да сваёй смерці, жывучы шмат год на чужыне.



*Вячка Целеш. Першыя крокі ў свет.*
*Францішак Скарына, купецкі сын, у Рызе. 1990 год*







Прынцыпова важна, што для Скарыны вобраз паўнацэннага грамадзяніна непарыўна звязаны з наяўнасцю патрыятычнага пачуцця, любові да роднай зямлі. Найбольш ярка і пераканаўча гэта думка ўвасобілася ў прадмове беларускага творцы да кнігі “Юдзіф”. У ёй пісьменнік параўноўвае чалавека з іншымі жывымі істотамі і на аснове гэтага параўнання сведчыць пра агульную для іх любоў да роднага куточка зямлі, дзе яны нарадзіліся і ўзгадаваны.




*Плач прарока Ераміі аб сваёй радзіме на гравюры з Бібліі Францыска Скарыны*

Тым самым Францыск Скарына даказвае яшчэ адну важную для свайго часу ісціну: ён сцвярджае права грамадзян розных краін ганарыцца і любіць сваю айчыну, выступае за роўнасць усіх народаў між сабою і за каштоўнасць кожнага з іх паасобку. Выконваючы свой ўласны запавет слаўны палачанін у кожнай са сваіх кніг абавязкова падкрэсліваў уласнае паходжанне і з нязменнай павагай да роднага места пазначаў, што кніга “выкладзена доктарам Францыскам Скарынам са слаўнага горада Полацка”.

Трэба быць удзячнымі Францыску Скарыне, бо менавіта ад яго пачынаецца беларускае нацыянальнае пісьменства, скіраванае на адданае служэнне роднаму слову. Скарына першым гэтак ясна апісаў значнасць роднага слова для паўнацэннага фарміравання сапраўднага грамадзяніна і шматбаковага развітай асобы.

Інтэлектуальны пасыл нашага першадрукара быў скіраваны на ўсе саслоўі беларускага грамадства 16 стагоддзя. І пры ўсім гэтым выказаныя асветнікам погляды і думкі застаюцца надзвычай актуальнымі і важнымі нават сёння — праз 500 гадоў пасля іх з’яўлення. Больш таго, некаторыя думкі Скарыны здолелі зацікавіць і прывабіць многіх інтэлектуалаў па ўсім свеце, дзякуючы чаму з’явіўся шэраг перайманняў і перакладаў на самыя розныя мовы свету.



*Яўген Ждан. Думы пра Беларусь. 2002 год*

Асаблівай увагі замежных творцаў заслужылі яго патрыятычныя выказванні, адлюстраваныя ў прадмове да кнігі "Юдзіф": сёння вядомыя пераклады гэтых выказванняў на некалькі дзясяткаў моў народаў свету. Сабраныя разам яны пераканаўча сведчаць пра сілу слова Скарыны, падкрэсліваюць спрадвечную знітаванасць культурнага жыцця нашых краін.

Усё гэта дазваляе ўпэўнена казаць пра агульнасусветны характар творчасці Францыска Скарыны і пра яго ролю ва ўваходжанні айчыннай культуры ў агульначалавечы культурны працэс. А па-мастацку выказаныя ім словы пра любоў да Айчыны павінны стаць духоўным запаветам і для нашчадкаў Скарыны, і для ўсёй чалавечай супольнасці.

**У прадмове Скарыны да кнігі "Юдзіф" змешчана вядомае выказванне беларускага асветніка пра любоў да роднай зямлі. У паэтычным перакладзе Алеся Разанава на сучасную беларускую мову гэтыя радкі выглядаюць наступным чынам:**

**Як звяры,**
**што блукаюць у пушчы,**
**ад нараджэння**
**ведаюць сховы свае,**
**як птушкі,**
**што лётаюць у паветры,**
**помняць**
**гнёзды свае,**
**як рыбы,**
**што плаваюць у моры і ў рэках,**
**чуюць**
**віры свае**
**і як пчолы**
**бароняць вуллі свае —**
**гэтак і людзі**
**да месца, дзе нарадзіліся**
**і ўзгадаваны ў Бозе,**
**вялікую ласку маюць.**




*Уладзімір Крукоўскі. Плакат "460 год беларускага кнігадрукавання". 1976 год*

# Змест

# БІВЛИЯ РУСКА

ВЫЛОЖЕНА ДОКТОРОМЪ
ФРАНЦИСКОМЪ СКОРИНОЮ
ИЗСЛАВНАГО ГРАДА ПО
ЛОЦЬКА, БОГУ КОЧТИ И
ЛЮДЕМЪ ПОСПОЛИТЫМЪ
К ДОБРОМУ НАУЧЕНИЮ :-



Даведачнае выданне

Беларуская дзіцячая энцыклапедыя

**Суша** Аляксандр Аляксандравіч

# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА

У трох частках

Частка 1

## Чалавек-энцыклапедыя

*У кнізе выкарыстаны гравюры з выданняў Францыска Скарыны*

Навуковы рэдактар Л.У. Языковіч

Мастацкае афармленне: П.В. Баранаў

Камп'ютарная вёрстка: Д.В. Гарэлікаў

Падпісана да друку 04.02.2016.
Фармат 84×108 1/16 . Папера мелаваная.
Друк афсетны. Гарнітура Minion Pro.
Ум. друк. арк. 12,6. Ул. выд. арк. 12,35
Тыраж 1500 экз. Заказ 551.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/1 ад 08.07.2013.
Зав. Калініна, 16, 220012, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 04.10.2013.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь.

